


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 чэрвеня 2004 года

№ 26 (477)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года





**Навіны рэгіёну**

## Бананы ў садзе

**СМАРГОНЬ.** У зімовым садзе Смаргонскай школы-інтэрната зацвілі, а пасля і далі першыя плады бананы, дрэўцы якіх школа закупіла ў Мінскім батанічным садзе 6 гадоў таму. Дзеці сабралі і 5 літраў пладоў кававага дрэва, якое вырошчваюць ў гэтым жа садзе.

**Марына СЛІЖ.**

## Каровы гінуць

**АСТРАВЕЦ.** У сельскагаспадарчым кааперытыве "Рымдзюны" загінула 13 кароў. Паведамленне ў пракуратуру прыйшло раніцай 24 чэрвеня. Следчыя вядуць праверку. Мяркуюць, што жывёлу атруцілі.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Школа-юбілярка

**ВІЛЕЙКА.** Куранецкай сярэдняй школе – 140. Дзень нараджэння юбілярка адзначыць у суботу. Акрамя ўрачыстай часткі, якая раскажа пра ўчарашні і сённяшні дзень навучальнай установы, гасцей чакае вялікі канцэрт, у якім прыме ўдзел і духавы аркестр Вілейскай школы мастацтваў.

**Марына СЛІЖ.**

## Новая вітрына

**МЯДЗЕЛ.** Новую вітрыну, прысвечаную 43 арміі I Прыбалтыйскага фронту, якая вызваляла Мядзельскі раён, аформілі супрацоўнікі музея Народнай славы. Пісьмы, фотаздымкі, іншыя дакументы, сабраны школьнікамі з клуба "Пошук" пры сярэдняй школе №1 пад кіраўніцтвам настаўніцы **Валянціны Сушкевіч.**

**Марына СЛІЖ.**

## Гарым штотыдзень

**МАЛАДЗЕЧНА.** Два пажары за два тыдні адбыліся на Маладзечаншчыне. Па прычыне кароткага замыкання электраправодкі халадзільніка згарэла дача і пашкоджана лазня ў вёсцы Ласі, знішчана надворная пабудова па вуліцы Заводскай у горадзе.

**Марына СЛІЖ.**

## Залівае...

**АШМЯНЫ.** З 10 па 20 чэрвеня ў горадзе і раёне не было ніводнага дня без дажджу. А 17 ішоў нават град. Як паведамілі на метэастанцыі, за другую дэкаду месяца выпала 43 міліметры ападкаў, што на 70 працэнтаў больш за норму.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Вучацца медыкі

**ВАЛОЖЫН.** Двухтыднёвыя курсы павышэння кваліфікацыі пры Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі прайшлі за першае паўгоддзе гэтага года 12 дактароў раёна.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

# Знаходкі з былых баёў

**МАЛАДЗЕЧНА. Працуючы на агародзе каля ўласнага дома, што на праездзе Куйбышава, 1, трыццацігадовы жыхар горада Генадзь Немкаловіч знайшоў у зямлі астанкі чалавечых касцей. Гаспадар неадкладна выклікаў міліцыю. Следчыя хутка высветлілі, што астанкі не маюць дачынення да крыміналу, і запрасілі прадстаўнікоў ваенкамата. Знаходку кваліфікавалі як "хаатычнае воінскае захаванне часоў Вялікай Айчыннай вайны".**



**Супрацоўнік ваенкамата Мікалай Садоўскі паказвае знойдзеныя падчас раскопак асабістыя рэчы загінуўшых салдат.**

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

"У гэтым доме наша сям'я жыве нядоўга, усяго год, – кажа Генадзь. – 10 чэрвеня на агародзе вырашыў пабудаваць летні душ. Пачаў капаць яму. Пракапаў у глыбіню крыху больш за метр. Знайшоў спачатку косць, потым чэрап. Калі зразумеў, што яны чалавечыя, выклікаў участковага".

Прыехалі супрацоўнікі міліцыі і пракуратуры. Па знойдзеным салдацкім кацялку вызначылі, што захаванне не сённяшніх дзён і крыміналу тут няма. Раскопкі прадоўжылі, пакуль не наткнуліся на асобныя часткі зброі. Тады работу спынілі. Па словах галоўнага спецыяліста па сацыяльнай абароне маладзечанскага ваенкамата **Мікалая Садоўскага**, пры адшуканні зброі па закону неабходна выклікаць спецыяльных батальён. Была створаная камісія пры выканкаме, якую ўзначаліла намеснік старшыні **Наталля Шмакава**. Камісія вырашыла дазволіць пошукаваму фарміраванню 52 асобнага спецыялізаванага батальёна – адзінаму, ён такі адзіны ў краіне – з 18 чэрвеня пачаць на месцы пахавання пошукавыя работы. Тры салдаты на чале са старэйшым лейтэнантам **Сяргеем Чэбышавым** з 18 па 20 чэрвеня знайшлі ў агародзе маладзечанца астанкі трох савецкіх воінаў, тры пластмасавыя салдацкія медальёны, дзве пляшкі, кацялок, компас, алюмініевую лыжку, паходную рыдлёўку, муштук, часткі радыёстанцыі. Таксама тры штык–нажы, фрагменты стралковай зброі – мяркуюць, што гэта была вінтоўка альбо карабін, – і больш за 80 патронаў. Аналіз гэтых рэчаў дазваляе сцвярджаць, што гэта былі менавіта савецкія салдаты.

Зброя цяпер знаходзіцца ў міліцыі. Супрацоўнікі праваахоўных органаў правераць яе стан, і, хутчэй за ўсё, праз месяц яна будзе знішчана. Астатнія рэчы – у ваенкамаце. Іх прапануюць краязнаўчаму музею. Пластмасавыя салдацкія медальёны, у якіх павінны знаходзіцца звесткі пра іх уладальнікаў, адвезлі ў Мінск. Медальёны адкрыюць у спецыяльных умовах. Калі на паперках, што знаходзяцца ўнутры, атрымаецца што–небудзь прачытаць, магчыма, мы даведаемся імёны загінуўшых салдат. А таксама час, калі яны загінулі: у 41–м, на пачатку вайны, ці ў 44–м, пры вызваленні Беларусі. Астанкі перададуць сваякам, калі такія знойдуцца, для пахавання. Калі ж асобы воінаў вызначыць не ўдасца, іх пахаваюць як невядомых салдат. А пакуль што астанкі запакаваныя ў асобныя мяшкі, апячатаныя і перададзеныя на часовае захоўванне айцу Аляксандру ў царкву, што на Старым Месце.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Зменены статус



У Беларусі адменены ранейшы парадак вызначэння статусу ліквідатараў і пацярпелых на ЧАЭС.

3-я старонка

## Наша прастора



Для каго прастора – кватэра, для каго – звычайная пясочніца. Чарговы "Адкрыты ўрок" вядзе Ігар Кіцікаў.

5-я старонка

## Знаёмцеся, Дубіна!

Вёска Дубіна (націск на апошні склад) у Валожынскім раёне прэтэндуе на званне сталіцы гумару нашага рэгіёну. А жывуць там працавітыя і шчырыя людзі.

6-я старонка

■ НАВІНЫ

## Знаёмства з «Маладзіком»

**МАЛАДЗЕЧНА. Не менш за 100 гасцей сабрала 16 чэрвеня ў Маладзечанскім цэнтры пазашкольнай работы актавая зала на прэзентацыі новай газеты "Маладзік".**

Яе выпускае клуб юных журналістаў "Маладзік", які і стаў ініцыятарам правядзення гэтай прэзентацыі. Кіраўнік клуба Наталля Шульжыцкая расказала пра цэнтр і гурткі цэнтра. Пра газету, клуб юных журналістаў і яго дзейнасць паведаміў гуртковец Валянцін Цішко. Маргарыта Федаравічутэ расказала пра тое, як яна ездзіла ў "Зубраня" на змену юных журналістаў.

Сярод гледачоў арганізатары правялі віктарыну. Пераможцы атрымалі ў падарункі газету "Маладзік" і плакаты любімых зорак эстрады і кіно. У зале клуб правёў сацыялагічнае апытанне на тэму кішэнных грошай. Сярод гледачоў былі толькі дзеці з працоўных лагераў розных школ. Напрыканцы прэзентацыі ўсе жадаючыя атрымалі газету – усе 60 экзэмпляраў, адведзеных для рэкламы.

Міхаіл СТРАЛЕЦ.



Першымі ў Маладзечне ўбачылі новае выданне – газету "Маладзік" – работнікі рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты". Пра яе расказаў старэйшым сваім калегам адзін з аўтараў і стваральнікаў "Маладзіка" Валянцін Цішко.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## «Чысты» адпачынак

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Дружная адпачываюць 31 дзіця і 18 матуль, якія прыехалі з тэрыторый, забруджаных радыяцыяй.**

Адпачынак, які наладзілі нямецкая дабрачынная арганізацыя "Дамы завет Чарнобыля" і беларуская дабрачынная арганізацыя "Экадом", будзе доўжыцца 3 тыдні. Для дзяцей арганізавана работа гурткоў, для мам – курсы кройкі і шыцця.

Святлана ЦІШКО.

## Аднаўляюць сядзібу

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Камарова аднаўляюць фасад графскай сядзібы.**

Займаюцца гэтым навучэнцы вучылішча будаўнікоў з Барысава, якія знаходзяцца тут на практыцы. Юныя будаўнікі будуць працаваць у Камарове ўсё лета і плануюць аднавіць фасады ўсіх пабудоў былога маёнтка ў вёсцы.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ КАНІКУЛЫ

# Свет дзяцінства

**МАЛАДЗЕЧНА. Штогод у час летніх канікулаў філіял бібліятэкі №5, што па вуліцы Касманаўтаў, праводзіць для сваіх маленькіх чытачоў імпрэзу пад назвай "Свет нашага дзяцінства".**

Загадчыца бібліятэкі **Таццяна Маркфельд** і яе памочніца **Ірына Жахавец** загадзя рыхтуюцца да гэтага мерапрыемства: распрацоўваюць сцэнарый, купляюць невялічкія прызы з такім разлікам, каб ніхто не застаўся абдзеленым. У самых разнастайных гульнях, конкурсах прымаюць удзел вучні пачатковых класаў СШ №8. З гэтай навучальнай установай у бібліятэкі самыя цесныя сувязі.

Вось і на гэты раз смех, песні, частушкі, загадкі, конкурсы, гульні зацягнуліся замест адной гадзіны да двух з паловай. Вучні 2"А" класа **Алёна Мінкевіч, Максім Карабан, Таня Тулько** і **Валера Жахавец** паказалі сцэнку-казку, сэнс якой у тым, што "зло не заб'еш, але з ім трэба змагацца".

У конкурсе малюнкаў пераможцамі сталі **Наташа Козел, Даша Касцюкевіч** і **Наташа Скараходава.**

Валеры МАРКЕЛАЎ.



"Лёва" – малюнак, аўтар якога вучаніца 2 "А" класа СШ№8 Маладзечна Наташа Скараходава сярод іншых дзяцей стала пераможцай конкурсу малюнкаў, арганізаваным у філіяле бібліятэкі №5.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

■ ЛІТАРАТУРА

## «Якая проза нам патрэбная?»

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна тут прайшоў двухдзённы семінар пра прозе беларускага літаратурнага саюза (БЛС) "Полоцкая ветвь", у якім прыняло ўдзел звыш 20 прадстаўнікоў з усіх рэгіянальных аддзяленняў.**

На сённяшні дзень аддзяленні літсаюза існуюць як у сталіцы і ва ўсіх абласных цэнтрах, так і ў такіх гарадах, як Полацк, Барысаў, Рэчыца, Асіповічы і іншых. Усяго ў 14 рэгіянальных арганізацыях аб'ядналася каля 200 паэтаў, празаікаў, драматургаў, перакладчыкаў і літаратурных крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Сябрамі літсаюза выдадзена на цяперашні час звыш паўсотні аўтарскіх і калектыўных кніг паэзіі і прозы, выдаецца спецыялізаваная газета "Вестник культуры". А на гэтым семінары адбылася своеасаблівая прэзентацыя літаратурна-публіцыстычнага часопіса "Западная Двина".

Праграма семінара была вельмі насычанай: яго ўдзельнікі не толькі заслухалі і абмеркавалі 11 дакладаў, але і правялі савет БЛС, на якім абмеркавалі надзённыя пытанні. Для ахвотных была арганізаваная экскурсія па горадзе.

Старшыня літсаюза Аляксандр Раткевіч высока ацаніў арганізацыю правядзення семінара і тую літаратурную работу, якую вядзе маладзечанскае аддзяленне БЛС на чале з Таццянай Шэлег. У сваім невялічкім дакладзе Таццяна Мацэвіч паведаміла, што маладзечанцы рыхтуюць да выпуску чатыры кнігі вершаў і прозы, супрацоўнічаюць з шэрагам рэспубліканскіх і рэгіянальных выданняў ("Беларуская ніва", "Вожык", "Обозреватель", "Тайны души", Воскресение", "Женский калейдоскоп" і інш.). Толькі з пачатку года было каля 60 публікацый 20 з лішнім аўтараў.

Валеры МАРКЕЛАЎ.

■ ТЭАТР

## Поспех Барткевіча

**МАЛАДЗЕЧНА. Малады рэжысёр Андрыян Барткевіч стаў пераможцам нацыянальнага конкурсу па падтрымцы маладых талентаў Адміністрацыяй прэзідэнта.**

Рэжысёр прадстаўляў на конкурсе спектакль "Цішка Слухай" паводле п'есы беларускага драматурга Алеся Асінавага.

Валеры МАРКЕЛАЎ.

## Дапаможам тэатру

**МАЛАДЗЕЧНА. Абласному драматычнаму тэатру для пастаноўкі п'есы Барыса Васільева "Пачатак" патрэбна адзенне канца 30–х, пачатку 40–х гадоў.**

Усе, хто можа аказаць садзейнічанне ў набыцці адзення, будуць запрошаны ганаровымі гледачамі ў дні адкрыцця чарговага 14-га тэатральнага сезона. Звяртайцеся па тэлефонах у Маладзечне 54676, 52916, 54991.

■ КІНО

## Фільм пра Васіля Быкава

**МІНСК. Прэзентацыя кароткаметражнага дакументальнага фільма «Васіль Быкаў. Вяртанне» адбылася 22 чэрвеня ў рэспубліканскім грамадскім аб'яднанні «Беларускі «ПЕН-цэнтр» у Мінску у гадавіну смерці народнага пісьменніка.**

Як адзначыў, адкрываючы мерапрыемства, намеснік старшыні ПЕН-цэнтра Андрэй Дынько, «сёння мы ўспамінаем аднаго з самых выдатных нашых пісьменнікаў, які быў не толькі вялікім творцам, але і прыкладам маральных паводзін і магутчай сцяной, за якой нам было лягчэй дзейнічаць».



Васіль Быкаў.

Фота ByMedia.Net.

Васіль Быкаў, падкрэсліў А.Дынько, быў чалавекам, «які не ішоў на кампрамісы нават са сваім сумленнем, чалавекам, які спрабаваў знайсці лепшы з усіх магчымых шляхоў».

«Цяпер мы можам толькі глядзець кадры, якія засталіся пасля пісьменніка, чытаць яго кнігі, выпушчаныя пры жыцці і пасмяротна, і спрабаваць заставацца сабой у любой сітуацыі», — сказаў А.Дынько.

Фільм быў зняты ў чэрвені 2003 года падчас цырымоніі развітання і пахавання В.Быкава ў Мінску. У стужцы выкарыстаны фрагменты інтэрв'ю з пісьменнікам. Рэжысёр фільма — Віктар Корзун, прадзюсер — Кася Камоцкая.

Паводле БелаПАН.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## А выйшла, як заўсёды...

"Мела лапік зямлі, ды і той забралі," – скардзілася бабулька, якая гадоў дзесяць запар садзіла пад вокнамі свайго дома гародніну. Вялікага наедку не мела, бо які ўраджай можна сабраць з грады даўжынёй у два метры. Але ні за кропам, ні за цыбуляй на рынак не хадзіла. Хапала і салаты на цэлае лета, радыскі, якую час ад часу падсейвала. А з тых пяці радкоў шчаўя, што зелянелі ў цяньку пад дрэвамі, умудралася яшчэ й нарыхтоўкі на зіму зрабіць.

Вясной мінулага года на дзвярах пад'ездаў іх дома вывесілі аб'явы-папярэджанні, якія абяцалі жыхарам, што возьмуцца за лапаты і засеюць грады, штраф. "І каму яны заміналі?"—мо, месяцы два не магла суняцца бабуля. Яшчэ большым было яе абурэнне, калі ў канцы чэрвеня замест абяцаных кветак на месцы былых градак зацвіў асот і вырасла ў пояс трава.

Прыкладна такую ж карціну назірала я і з вокнаў сваёй шматпавярхоўкі. А вось жыхары той, дзе знаходзіцца рэдакцыя, аказаліся мудрэйшымі. Нягледзячы на ўсе папярэджанні ўсё ж пасадзілі кабачкі, буракі, моркву, часнок. А ўздоўж бардзюра кожная гаспадыня, зрабіўшы жывую агароджу, пасеяла кветкі. Ужываліся яны з гароднінай ныдрэнна. І як адны, так і другія цешылі вока.

Восенню перад вокнамі рэдакцыі заракатаў трактар. Прадстаўнік ад "Камунальніка" ўзараў зямлю, ператварыўшы, падобныя на шнурочкі градкі, у суцэльны дыван, і загадаў больш нічога не садзіць. Маўляў, хопіць народ смяшыць, у цэнтры горада вырошчваць буракі.

Яно зразумела, эстэтыкі тут мала. І ніхто ні з гараджан, ні з жыхароў гэтага дома нічога б не сказаў, каб вясной на месцы гародаў з'явіліся клумбы, а на іх, як і абяцалі, кветкі. А то прыехаў, як і восенню, трактар, прабегся туды-сюды і... знік. Адны кажуць, што на месцы градак пасеялі газонную траву, другія сцвярджаюць, быццам бы нейкія кветкі. Учора абследавала ўчастак, як кажуць, удоўж і ўпоперак. Ні газоннай травы, ні кветак, калі не лічыць дзьмухаўцоў, якія ўжо адцвілі, і кустоў касачоў, пасаджаных даўным-даўно жыхарамі дома, нічога не заўважыла. Затое асоту, лебяды, макрыцы – хоць адбаўляй. І як ні дзіўна, нікому яна не рэжа вока. І выгляду горада, як некалі пасаджаныя ў гэтым месцы буракі, "не псуе".

Ніхто не кажа, што не трэба імкнуцца да дасканаласці. Ніхто не спрачаецца з тым, што трэба старацца рабіць свой горад утульным і прыгожым. Але перад тым, як прымаць якое-небудзь рашэнне, трэба, мне здаецца, узважыць свае магчымасці. А то, атрымалася як у той прыказцы: хацелася, як лепш, а выйшла – як заўсёды.



Разважала Марына СЛІЖ.

■ ПАРТРЭТ

# Прафесія стала сямейнай

**АШМЯНЫ. Сваю працоўную біяграфію Леакадзія Мігун пачала пісаць без малога трыццаць гадоў таму. За гэты час разам са сферай грамадскага харчавання раёна перажыла розныя часы. Але прафесіі повара не здрадзіла.**

“Закончыла я, — расказвае жанчына, — Баранавіцкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча. А першым рабочым месцам стала гальшанская сталовая-рэстаран. Пачынаць заўсёды не проста. Не ведаеш, як цябе прыме калектыў, ці зможаш падладзіцца пад яго рытм жыцця. Таму хвалявалася, перажывала. Але не прайшло і тыдня, як адчула сябе сярод калег сваёй. Нягледзячы на маладосць, да мяне прыслухоўваліся, са мной раіліся”.

Праз нейкі час кіраўніцтва прапанавала новае месца працы. У Яснай Паляне адчынілася сталовая, і там таксама быў патрэбен кваліфікаваны повар. Леакадзію нішто і ніхто не трымаў. У адрозненне ад калег, у яе яшчэ не было ні свайго дома, ні сям’і.

“З таго часу, — гаворыць жанчына, — прайшло багата гадоў. Выйшла замуж, пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў Ашмяны, дзе нарадзіліся і выраслі дзеці. Дачцэ ўжо 23. Сыну – 16”. Святлана абрала для сябе прафесію цырульніка. А вось Вадзім вырашыў стаць як мама, поварам. Толькі вучыцца не ў Баранавічах, а ў сваім горадзе. Пакуль што першакурснік.



Повар ашмянскай сталовай Леакадзія Мігун працуе ў сферы грамадскага харчавання без малога трыццаць гадоў. Фота Марыны СЛІЖ.

“У нас у сям’і ўсе да гэтай справы здатныя, — гаворыць жанчына. Маці мая дапамагае знаёмым на вяселлі розныя стравы гатаваць, поварам працуе старэйшая сястра Ганна. Таму і не здзівіліся, калі Вадзім сказаў, што хоча абраць для сябе гэту прафесію”. Дарэчы, галоўнай на кухні падчас вяселляў даводзіцца быць і Леакадзіі. Прайшлі тыя часы, калі людзі спраўлялі балі ў кватэрах. Вось і ашмянская сталовая, дзе цяпер працуе поварам, нарасхват. На два месяцы наперад распісаны ў ёй святкаванні з нагоды заключэння шлюбу. Чым будуць здзіўляць гасцей? Катлетамі “Ракета повара”, адбіўным мясам “Птушка”, рознымі салатамі, халоднымі і гарачымі закускамі.

Гэта ў выхадныя. А ў будныя дні сталовая, дзе працуюць у дзве змены 6 чалавек, жыве звычайным, размераным жыццём. Повар і кухонныя рабочыя гатуюць абеды, буфетчыца абслугоўвае кліентаў. “Людзей у нас, — расказвае Леакадзія Мігун, — няшмат. У асноўным прыходзяць паабедаць альбо павячэраць заезджыя. Але без работы не бываем. У сталовай гатуем піражкі, чабурэкі, катлеты, салаты, бутэрброды, якія прадаюць магазіны горада”.

За змену, а працуюць па тыднях, повар выпякае ў сярэднім каля тысячы чабурэкаў і каля двух тысяч піражкоў. Столькі ж прыходзіцца і на калегу Леакадзіі Галіну Рынкевіч. Не маюць вольнай хвіліны і кухонныя рабочыя, якімі працуюць Вольга Янкоўская і Зінаіда Жалевіч, а таксама буфетчыцы Ірына Невядомская і Ірына Супрановіч. Кажуць, на тое яна і работа.

**Марына СЛІЖ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 17.6 руб. | 24.6 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2154,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2612,26 | 2615,60 |
| Злоты | 569,77 | 570,90 |
| Літ | 756,59 | 757,54 |
| Расійскі рубель | 74,22 | 74,21 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2145/2165 | 2140/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 16.6 | 23.6 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5250 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 3000 |
| Рыс, 1 кг | 1350 | 1100 |
| Грэчка, 1 кг | 1600 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2400 | 2100 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 640 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1050 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 900 | 900 |
| Морква, 1 кг | 400 | 800 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 2000 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Клубніцы, 1 кг | 5500 | 4500 |
| Чарэшні, 1 кг | 4000 | 4500 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2400 | 2400 |
| Масла, 1 кг | 6000 | 5500 |
| Тварог, 1 кг | 2700 | 2800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 2800 |

■ ЛЬГОТЫ

# Ліквідатар, ты хто?

**МІНСК. У Беларусі адменены ранейшы парадак вызначэння статусу ліквідатараў і пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС. Міжведамасная камісія па аднясенню грамадзян да катэгорыі пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС выйшла за межы дэлегіраваных ёй паўнамоцтваў. Такое рашэнне вынес Канстытуцыйны суд Беларусі, разгледзеўшы зварот дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Міхаіла Паплаўскага.**

Ён прасіў вывучыць існуючую практыку па ўстанаўленні статусу ўдзельніка ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

На думку дэпутата, праблема значнай часткі грамадзян, якія жывуць на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання, якія бралі ўдзел у ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, заключаецца ў тым, што міжведамасная камісія адмаўляе ім ва ўстанаўленні статусу ўдзельніка ліквідацыі наступстваў гэтай катастрофы. Прычыну адмаўлення яна матывавала пражываннем дадзеных грамадзян на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання, гэта значыць, адносіла іх да катэгорыі не ліквідатараў, а пацярпеўшых.

Як паведаміла БелаПАН памочнік старшыні Канстытуцыйнага суда Людміла Мурашка, вывучыўшы праблему, суддзі вызначылі, што прысваенне грамадзяніну статусу ўдзельніка ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС заканадаўства звязвае не з месцам яго пастаяннага пражывання, а выключна з характарам і месцам праводзімых работ, а таксама часам іх правядзення.

На сваім пасяджэнні ў 1994 годзе міжведамасная камісія разгледзела пытанне аб прававым статусе асобных катэгорый грамадзян. Тады ж было прынята рашэнне, што асобы, якія пастаянна жывуць у населеных пунктах, размешчаных на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання, якія выконвалі ў гэты перыяд работы ў населеных пунктах зон першачарговага адсялення і наступнага адсялення, да ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС не адносяцца. Яны з’яўляюцца асобамі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Ім прадастаўляюцца льготы, якія, дарэчы, крыху меншыя, чым у ліквідатараў.

У выніку ў лік удзельнікаў ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС не ўключаюцца жыхары забруджаных раёнаў, таму што яны былі аднесены да катэгорыі пацярпеўшага ад катастрофы на ЧАЭС насельніцтва.

На падставе дадзенага палажэння пры перарэгістрацыі ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, што праводзілася ў 1995 годзе, многім грамадзянам было адмоўлена ў перарэгістрацыі.

Разгледзеўшы дадзенае палажэнне, Канстытуцыйны суд палічыў, што міжведамасная камісія выйшла за межы дэлегіраваных ёй паўнамоцтваў.

На думку КС, вырашэнне пытання, да якой катэгорыі пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС могуць адносіцца тыя або іншыя грамадзяне, павінна прадвызначацца не месцам іх пастаяннага пражывання, а характарам работ, да якіх яны прыцягваліся, і месцам ажыццяўлення згаданых работ.

КС прапанаваў Савету міністраў прыняць захады па больш дакладнаму выкананню норм заканадаўства. У сваю чаргу міжведамасная камісія, разгледзеўшы рашэнне Канстытуцыйнага суда, адмяніла рашэнне 1994 года. Цяпер у асобных выпадках статус грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, можа быць перагледжаны.

**Паводле БелаПАН.**

Рэклама ў «Рэгіянальнай газеце – тэл. у Маладзечне 53841

ВНИМАНИЕ – СЕЗОННАЯ РАСПРОДАЖА!
ВСЯ ТРУБОПРОВОДНАЯ АРМАТУРА, НАСОСНОЕ И ВЕНТИЛЯЦИОННОЕ ОБОРУДОВАНИЕ, ЭЛЕКТРОДВИГАТЕЛИ
НОВИНКИ: • РЕГУЛЯТОР РАСХОДА РР • МУФТЫ, КОНТРОГАЙКИ, РЕЗЬБЫ, БОЧАТА, СГОНЫ • ШУМОГЛУШИТЕЛИ • НАСОСЫ КО
СКЛАД И ОФИС В РАЙОНЕ МКАД
"Белармахим" – первый импортёр
СПЕЦИАЛЬНЫЕ ЦЕНЫ
www.belarmahim.by
e-mail: belarmahim@tut.by
Тел./факс (017) 278-65-89, 212-37-61, 212-44-58, 212-60-71
Могилёв (0222) 23-77-21; Гомель (0232) 41-54-41
Новополоцк (0214) 51-19-39
ИЩЕМ РЕГИОНАЛЬНЫХ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

ВЫ ГОТОВЫ К ТЕХОСМОТРУ?
"ЗАПРЕЩАЕТСЯ эксплуатация транспортных средств, если суммарный люфт в рулевом управлении превышает следующие значения:
для автобусов - 20 градусов
для грузовых автомобилей - 25 градусов"
(Приложение 5, Глава 2, Правила дорожного движения)
шины и аккумуляторы для любой техники
запасные части для ЗИЛ, ГАЗ, УАЗ, МТЗ
Тел. в Молодечно:
(01773) 6-42-84, 3-61-14
Адрес: пер. Банный, 10 (ОДО "Агрошина")




Товар сертифицирован. ОДО "Агрошина", лиц. № 10567 от 4.05.2000г, действительна до 4.05.2005г

ТДА «Майстар-Плюс»
Мантаж, наладка лічыльнікаў цеплавой энэргіі і пары (ліц. МАІС РБ №С-2137 ад 26.02.2002/2007 г.).
Рамонт і паверка лічыльнікаў цеплавой энэргіі і вады любых тыпаў, КВП кацельняў, манометраў. Усе работы выконваюцца высокакваліфікаванымі спецыялістамі на асабістым абсталяванні.
Маладзечна, зав. Лермантава, 17, тэл.: (01773) 75035, 71041.

СТРОЙМИР®
Чистота в Вашем подъезде, безопасность в доме
аудиоВИДЕОдомофонные системы по цене аудиодомофонных
надёжные металлические двери
электронный ключ «SMart»
(017) 206 43 83
marketing@stroymir.by
Приглашаем к сотрудничеству представителя менеджера в вашем городе! Возраст 25-40 лет, в/о, со знанием оборудования связи и опытом монтажных работ. тел. (017) 223 73 21

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою.
Кадзіраванне, біялагічны блок.
Маладзечна, вул.Чкалава, 5 (басейн)
Тэл. 36136, (8-029) 7743373.
Ліц МЗ РБ №2666 ЛМ да 24.04.2008

ОАО «Белсчёттехника»
производит продажу и техническое обслуживание всех видов кассовых аппаратов для торговли и маршрутных такси.
Подготовка документов для оформления в налоговой инспекции и обучение.
Молодечно, ул. Машерова, 37; тел. (01773) 54700.
Сертификат соответствия БелГИСС №BY/112.04.8 ОФ0110.

Мінскі філіял ААТ «Брэсцкая абласная база «Бакалея» запрашае да супрацоўніцтва арганізацыі і прадпрыемствы гандлю, індывідуальных прадпрымальнікаў на ўзаемавыгадных умовах. Маем магчымасць адгрузіць са склада ў Мінску ўвесь асартымент харчовых тавараў, у тым ліку без аптовай надбаўкі. Дастаўка па Мінску за кошт «Пастаўшчыка». Гібкая сістэма аплаты. Тэл.: (017) 2496815 (факс), 2498473.

Одесская область
Б/о «Бриз», «Жемчужина»
Крым
Трэйдтур от 135 у.а.
Тел.: (017) 2633135, 2649350, 2606171, без выходных.
Лиц. №40 выд. Мин. спорта и туризма РБ от 19.12.2000/2005 г.

Приглашаем на работу в Минске, промзона «Шабаны» (кольцо 9 и 61 автобусов): плиточников, штукатуров, столяров, электриков, а также молодых людей до 30 лет – дадим специальность «Камнеобработчик». Тел.: (017) 2449121, 2449131, (8-029) 6449121.
*Людей пьющих, бывших работников торговли, шабашников – просьба не беспокоить.*

Гандлёвая база ААТ «Маладзечнагандаль» здае ў арэнду складскія і офісныя памяшканні па вул. Металістаў, 3А. Тэл.: (01773) 53774, 37387 (з 8.00 да 17.00).
Фота ByMedia.Net

■ ПЕРАДАДЗЕНА Ў СУД

# Ці скончыцца тая вайна?

**ВІЛЕЙКА. Пракуратура перадала ў суд справу аб забойстве 74-гадовай жыхаркі Куранца Вольгі К. 1 сакавіка састарэлая жанчына загінула ва ўласным доме ад рук раней судзімага 24-гадовага хлопца. "РГ" пісала пра гэта ў публікацыі "Крывавая драма ў Куранцы" 12 сакавіка. Сёння мы маем магчымасць больш падрабязна расказаць аб гэтым.**

Былая вязніца фашысцкіх лагераў 74-гадовая Вольга К. жыла ў Куранцы не больш за год. Пераехала з суседняй вёскі Галінова. Ні з кім асабліва зносінаў не мела. Можа, таму, што людзі, якія многа перажылі, не надта таварыскія і гаваркія, суседзі рэдка заходзілі да састарэлай бабулі. І наўрад ці маглі ведаць жыхары Куранца пра тое, што за ўсе перанесеныя ў гады вайны пакуты жанчына атрымлівала грашовую кампенсацыю ў валюце. Грошы дома не трымала, зберагала ў банку на кніжцы. У Вілейцы жыла нявестка (сын да таго часу памёр), у войску служыў унук Дзмітрый. Вольга К. дапамагала ім грашыма. І тыя не забываліся пра бабулю. Заязджалі адведаць, званілі па тэлефоне. У той дзень, 1 сакавіка, калі Дзмітрый прыехаў у водпуск, таксама пазванілі. Але тэлефон не адказваў. Не дазваніліся і ў наступныя два дні, вырашылі паехаць у Куранец.

...У сухіх міліцэйскіх зводках і пратаколах няма месца для эмоцый і перажыванняў. Маці з сынам 3 сакавіка каля 19 гадзін знайшлі бабулю забітай. Забітай з асаблівай лютасцю і цынізмам. Следчыя міліцыі і пракуратуры, якія прыехалі на месца здарэння, канстатавалі, што "на целе шмат слядоў ад удараў нажом, сам нож тырчыць у шыі, на шыі таксама зацягнуты тэлефонны провад". У доме быў беспарадак, рэчы параскіданыя. Было бачна, што нешта вельмі пільна шукалі.

Праваахоўным органам спатрэбілася ўсяго толькі ноч, каб раскрыць злачынства. Калі следчыя даведаліся, што Вольга К. у гады вайны была вязніцай фашысцкіх лагераў і атрымлівала грашовую кампенсацыю, яны адразу сталі распрацоўваць асноўную версію злачынства: абрабаванне. Трымаліся наступнай логікі: паколькі пацярпелая жыла ў Куранцы нядаўна, аднавяскоўцы не павінны былі ведаць пра грошы. Значыць, трэба шукаць злачынцу сярод блізкіх і сваякоў. Прычым на старым месцы жыхарства – у Галінове. З гэтага і пачалі. Высветлілі, што там жыве пляменнік забітай Віктар і вельмі часта ў госці да яго заходзіць 24-гадовы пасынак Аляксей М., які ў 2003 годзе выйшаў з турмы. Сядзеў за крадзеж і разбой. Цяпер жыў у Вілейцы ў сваёй маці. Айчыма з пасынкам аб'ядноўвала нехуйтаваная прага да спіртнога. Неадкладна дапыталі Віктара. Ён расказаў, што 1 сакавіка Аляксей прыходзіў да яго ў Галінова. Пілі да шасці вечара, потым пасынак пайшоў дамоў. Следчыя адразу выехалі ў Вілейку. Маці сказала, што ў той дзень сын з'явіўся дома толькі ў 23 гадзіны. А палове шостай наступнай раніцы на кватэры маці знайшлі адзенне і абутак хлопца з плямамі крыві. Аляксея затрымалі. Праз дзве гадзіны ён напісаў яўку з пакаяннем.

Бабуля Вольга дома грошай не трымала. За некалькі дзён да забойства перапісала на ўнука Дзмітрыя 1500 еўра. "Хутчэй за ўсё Аляксей пра гэта ведаў, – кажа следчы Вілейскай пракуратуры **Дзмітрый Кебец**, – хаця сам ён сцвярджае, што забіў не за грошы. Па дарозе з Галінова ён быццам бы выпадкова зайшоў у Куранец адведаць бабулю, падчас размовы яна абразіла яго і айчыма, назваўшы іх п'яніцамі. Пасля гэтага хлопец стаў збіваць жанчыну спачатку нагамі, потым нажом. Мы крытычна ставімся да яго паказанняў. Упэўненыя, што ён шукаў у доме грошы, катаваў сваю ахвяру. Пра гэта гаворыць тэлефонны шнур на шыі забітай. Таму справу перадалі ў суд з фармулёўкай "забойства састарэлага з асаблівай жорсткасцю з карыслівых меркаванняў".

Судова-медыцынская экспертыза вызначыла, што пацярпелай было нанесена 19 удараў нажом і не менш як 8 удараў рукамі і нагамі. Смерць наступіла ў выніку страты крыві. Следства не знайшло абставін, якія б змякчылі віну Аляксея М., уключаючы тое, што ён пад час забойства быў у стане алкагольнага ап'янення".

Меру пакарання вызначыць суд.

Аўтар публікацыі дзякуе вілейскаму міжрайпракурору **Аляксандру Марозу** за інфармацыю.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ ПОСТ ДАІ

## Ніжэй хуткасць – менш праблем

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 ліпеня Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Ніжэй хуткасць – менш праблем!".**

Сёлета з пачатку года на дарогах Маладзечаншчыны адбылося 34 дарожна-транспартныя здарэнні (ДТЗ), у якіх 7 чалавек загінулі і 34 атрымалі раненні. У трох ДТЗ вінаватыя нецвярозыя вадзіцелі.

Аналіз аварыйнасці паказвае, што 5-я частка ўсіх ДТЗ адбываецца з-за незахавання вадзіцелямі хуткаснага рэжыму. І як вынік – з'езды ў кювет, перакульванні, сустрэчныя сутыкненні, наезды... Небяспека заключаецца ў тым, што з павышэннем хуткасці рэзка павышаецца тармазны шлях і ў некалькі разоў павялічваецца магчымасць заносу.

10 чэрвеня ў 8.55 у аддзел міліцыі паступіла паведамленне з гарадской бальніцы аб аказанні медыцынскай дапамогі майстру чыгункі маладзечанскай дыстанцыі пуці Барысу Бурдзіну. Следча-аператыўная група ГРАУС устанавіла, што ў гэты дзень каля 8.00 на 46-м кіламетры дарогі Мінск-Нарач Барыс Бурдзін, едучы з Маладзечна на станцыю Радашкавічы на ўласнай аўтамашыне "Аўдзі-80", пагрэбаваў патрабаваннямі дарожных знакаў "Рамонт дарогі" і "Абмежаванне хуткасці 40 км-гадз.", выехаў на пакрытую свежым шчэбенем паласу, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў на левую абочыну і сутыкнуўся з дрэва. Атрымаў траўмы рознай складанасці.

У гэты дзень каля 10.20 Мікалай Грышэль з вёскі Дубрава, кіруючы аўтамабілем "Масквіч-2140" на вуліцы Дубоўскага, не справіўся з кіраваннем, выехаў на левую абочыну і перакуліўся. Вадзіцель атрымаў раны губы і ўдар грудной клеткі, а пасажырка Алена Ткачэнская, вартаўнік Маладзечанскай птушкафабрыкі, атрымала пераелом ніжняй сківіцы, закрыты пераелом правага бядра, закрытую чэрапна-мазгавую траўму, шматлікія ўдары. Узбуджана крымінальная справа.

Узрасла колькасць ДТЗ і з удзелам матацыклістаў. За май і першыя дні чэрвеня адбылося 25 такіх здарэнняў (прычым 22 аварыі адбыліся непасрэдна па віне вадзіцеляў), 8 чалавек загінулі і 27 атрымалі раненні. Тры матацыклісты былі п'яныя. Трэцяя частка здарэнняў адбылася ў цёмны час сутак. 13 пацярпелых не дасягнулі 20-гадовага ўзросту, 4 з іх загінулі.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Гаспадарлівыя зладзеі

**МЯДЗЕЛ. За 2 дні ў раёне абрабавалі 2 вясковыя магазіны.**

Адзін – у Будславе, другі – у Пількаўшчыне. Прычым, у апошнім прыхапілі не толькі стандартны набор (віно, цыгарэты), але і патрэбныя ў гаспадарцы рэчы – касу, граблі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## У парку небяспечна

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадскім парку, каля гасцініцы "Маладзечна" і на Цэнтральнай плошчы за апошні тыдзень невядомыя збілі чатырох чалавек. Цікава, што злачынцы амаль заўсёды стараліся трапіць сваім ахвярам чамусьці менавіта ў нос.**

Так, 19 чэрвеня каля адзінаццаці гадзін вечара ў парку пабілі маладзечанца. Зламалі косці спінкі носа. Пацярпелы звярнуўся ў бальніцу толькі праз тры дні, 22 чэрвеня. Нос небаракі для дактароў цэнтральнай гарадской бальніцы ў гэты дзень, як высветлілася, быў не апошнім. На гэты раз сярод белага дня, а палове чацвёртай, на Цэнтральнай плошчы без прычыны нейкія хуліганы збілі яшчэ аднаго гараджаніна. І тут таксама пацярпеў нос.

Яшчэ раней, 17 чэрвеня, там жа, у парку, каля атракцыёнаў, а палове дзесятай вечара, не пазбегнуў непрыемнай сустрэчы з невядомымі 22-гадовы жыхар вёскі Выверы. Вынік – страсенне мозга і закрытая чэрапна-мазгавая траўма. Узбуджаныя крымінальныя справы.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ ЗЛАЧЫНСТВА РАСКРЫЛІ

# Крымінальнае трыо

**ВІЛЕЙКА. На працягу дванаццаці дзён з гаражна-будаўнічага кааператыва №5 горада былі ўкрадзены дзве аўтамашыны: "Жыгулі" і "Рэно". Злачынцаў затрымалі, тэхніку вярнулі ўладальнікам.**

... Яны познаёміліся ў Барысаве. Двое хлопцаў з Бабруйска і адзін з Вілейкі адбывалі ў калоніі гэтага горада тэрмін пакарання за свае злачынствы. Пакідаючы зе сцэны, кляліся, што больш ніколі не возьмуць чужое. Аднак ні адзін з іх, выйшаўшы на волю, не ўзяўся за розум. Юнакі, аднаму з якіх было 19 гадоў, а двум па 17, зноў пайшлі на крадзяжы.

У Вілейцы яны аблюбавалі гаражна-будаўнічы кааператыў №5. Адтуль у канцы красавіка адразу ўкралі аўтамашыну "Жыгулі", а праз дванаццаць дзён яшчэ і "Рэно". Больш таго, адзін з гаражоў, уладальнікамі якога з'яўляліся прыватныя прадпрымальнікі, аказаўся для іх проста залатой жылай. Панеслі з сабой яшчэ і парасоны, фарбу, іншы тавар.

На "Рэно" каталіся не доўга, не справіўшыся з кіраваннем, з'ехалі ў кювет і перавярнуліся. А "Жыгулі" пакінулі ў адным з двароў Барысава. У выніку сумеснай работы з калегамі Барысаўскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў там іх і затрымалі вілейскія праваахоўнікі.

Высветлілася, што затрыманыя здзейснілі больш за 10 злачынстваў. Гастралюючы па маршруце Вілейка-Крупкі-Барысаў-Плешчаніцы, кралі з гаражоў аўтамашыны, здымалі з іх колы, магнітолы, перапрадавалі. Вырученых грошай хапала ненадоўга. Жыць жа хацелася прыгожа, на шырокую нагу, таму праз нейкі час зноў выходзілі на "палянанне".

У гаражы пранікалі па-рознаму. Дзе былі замкі прасцейшыя, узломлівалі. Не атрымлівалася, выбівалі дзіркі ў сценах і адчынялі дзверы знутры. Цяпер крымінальнае трыо дае паказанні ў міліцыі і наўрад ці хутка зможа зноў пракаціцца з ветрыкам.

**Марына СЛІЖ.**

# Хлопец краў, дзяўчына пільнавала

**ВІЛЕЙКА. Супрацоўнікі Вілейскага раённага аддзела ўнутраных спраў раскрылі разбойнае нападзенне ў вёсцы Ляхаўшчына, дзе невядомы, звязаўшы жанчыну, забраў каля 60 тысяч рублёў.**

У дом ён прыйшоў пад выглядам работніка энэрганагляду. Растлумачыўшы гаспадыні, што мусіць праверыць лічыльнік святла і электраправодку, агледзеў пакоі, а пасля, упэўніўшыся, што ў іх больш нікога няма, стаў патрабаваць грошы.

Вялікіх збераженняў у жанчыны не было. Жыве, як і большасць вяскоўцаў, ад пенсіі да пенсіі. Але беспрацоўнаму злодзею без пэўнага месца жыхарства і тыя 60 тысяч здаліся капіталам. Праўда, яны хутка скончыліся. І тады хлопец вырашыў зноў з'ездзіць на "праверку".

На гэты раз абраў вёску Доўгае, дзе на пару з сяброўкай гэтак жа пайшоў на хатах. Вяжа іх скончылі супрацоўнікі міліцыі, якім патэлефанавалі жыхары населенага пункта. Напужаныя здарэннем у Ляхаўшчыне, якая знаходзіцца з іх вёскай у адным, Нарачанскім сельсавеце, яны вырашылі перастрахавацца. Пільнасць была недарэмнай. "Рэвізорам" аказаўся жыхар Маладзечна, а яго добраахвотнай памочніцай дзяўчына з Вілейкі. Затрымалі абаіх. Высветлілася, што ў Ляхаўшчыне, пакуль хлопец дабываў грошы, яна стаяла на варце.

**Марына СЛІЖ.**

# Міна ў цэнтры сталіцы

**МІНСК. Мінамётная міна часоў Вялікай Айчыннай вайны была знойдзена днём 22 чэрвеня ля мінскага кінатэатра «Кастрычнік». Такім чынам, вайна зноў нагадала пра сябе ў 63-ю гадавіну з дня яе пачатку.**

Міну знайшлі рабочыя, якія вялі на пляцоўцы перад кінатэатрам земляныя работы па замене труб цеплатрасы. Як паведамілі БелаПАН удзельнікі «раскопак», адразу ж пасля знаходкі боепрыпаса да «Кастрычніка» прыбыла група размініравання 1-й асобнай спецыяльнай брыгады міліцыі. Спецыялісты забралі знаходку, праверылі мінашукальнікамі прылеглую тэрыторыю, аднак іншых выбуханебяспечных прадметаў не знайшлі. Пасля гэтага земляныя работы былі прадоўжаны.

Паводле інфармацыі прэс-службы ўнутраных войскаў, групай размініравання боепрыпас быў знішчаны.

**Паводле БелаПАН.**

## Патрабуюцца сведкі

19 студзеня каля 20 гадзін на 48-м кіламетры мінскай кальцавой дарогі вадзіцель, кіруючы аўтамабілем "Таёта", у дзяржнумары ёсць лічбы "00", здзейсніў наезд на грамадзянку Г.Роўду, якая ад атрыманых ран памерла на месцы здарэння. Вадзіцель з месца здарэння знік. Просім відавочцаў патэлефанаваць па 45-3-40, 45-3-45 ці па 02.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Наша прастора

**Цікава назіраць, як малыя дзеляць пясочніцу. "Гэта мая палова, а гэта твая," — гаворыць адзін, але другі не згодны. І вось ужо ляціць пясок, рыдлёвачка і нават вядзерца. А вось вучні дзеляць парту, абмяраюць яе лінейкай і на палове крэйдай рысуюць мяжу. Перасячэнне мяжы можа выклікаць сварку і нават бойку.**

Успомніце, як запаўняецца электрычка. Спачатку – цэнтр вагона і месцы каля акна, і толькі потым пачынаюць падсаджвацца да іншых, пытаючы: "У вас свабодна?". Гэта фраза прадухіляе канфлікт, які мы бачым у першых двух выпадках.

Усе гэтыя прыклады нішто іншае, як праяўленне адчування тэрыторыі, неабходнасць мець вакол сябе прастору. Для кожнага гэта прастора розная. Аднаму дастаткова гарадской кватэры, другому патрэбны свой дом, а трэцяму падавай увесь сусвет.

"Тэрытарыяльны імператыў" (колькасць патрэбнай тэрыторыі) можа быць умацаваны адной культурнай традыцыяй і аслаблены іншай. Спосабы аховы межаў нашай прасторы і прызнанне непарушнасці чужых межаў вызначае характар нашых узаемаадносін з іншымі людзьмі. Па выніках навуковых даследаванняў на зямлі павінна жыць прыкладна 300 мільёнаў, тады людзі будуць жыць у згодзе паміж сабой і прыродай. Зараз жа на планеце пражывае прыкладна 6 мільярдаў. Таму людзям, асабліва тым, хто жыве ў асфальтабетонных джунглях гарадоў, не хапае прасторы. Адсюль і канфлікты паміж суседзямі, народамі і дзяржавамі.



Для каго прастора – кватэра, дом, сусвет, для каго – звычайная пясочніца.

### Вынікі апытання вучняў вілейскага ПТВ-200 (23 хлопчыкі 16-17 гадоў)

На пытанне: «Колькі вам патрэбна прасторы?» 9 адказалі – трохпакаёвая кватэра, 8 – двухпакаёвая, 3 – асабняк, па аднаму адказалі – віла, замак і нават востраў. На пытанне: «Што б вы зрабілі калі б вашу прастору заняў чужы чалавек?» 10 адказалі –пасварыўся, 6 – пабіўся, 4 – выгнаў, 2 – забіў, і толькі адзін адказаў – разабраўся б мірным спосабам.

Нам усім трэба памятаць, што, як бы мала не было прасторы, трэба быць міралюбівым, бо любы канфлікт можа яшчэ больш яе зменшыць, напрыклад, турма і нават труна!!!



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Мне вельмі шкада было прыгожай літоўкі, якая мела толькі 5 гадоў тэрміну й канчала ўжо адседжваць. За ўвесь час яна мела сувязі з бацькамі, і толькі пад канец тэрміну знайшла іх. Вось яна ў час работы на сьлюдзе аслабела, павялі яе ў санчасьць і там адразу яна памерла.

Наведвалі нас розныя эпідэміі, як грып й дэзынтэрыя. Хварэла я адной і другой.

Помню, пачалі ў нас хварэць грыпам. Кожную хворую разам зь яе пасьцеляй забіралі з барака. І так, калі я захварэла, сказалі ўзяць свой сяньнік і выйсьці з барака. Павялі мяне ў гігіенічную палату, у якой адна пры адной на падлозе, як селядцы ў бочцы, ляжалі хворыя. Не было там дзе й ступіць, а на мяне крычаць: „Ложись!" Дзе легчы, адна на другую? Я стаю з высокай тэмпэратурай, а нада мной ізноў крычаць: „Кладись". Наканец паклалі мяне на стале. Збівалі нам тэмпэратуру парашкамі й адразу выпісвалі. Ах, як тады мне галава балела, а я ўсё ня ведала ад чаго.

У часе начной працы на сьлюдзе некаторыя вартаўнікі пазвалялі нам сьпяваць. Сьпявалі пераважна украінкі. Некаторыя мелі цудоўныя галасы. Як я любіла гэты сьпеў, як прыемна было працаваць тады! Сьпявалі розныя песьні вядомыя й новыя, складзеныя вязьнямі, у якіх расказвалі аб сваёй цяжкай долі ці выражалі тугу за бацькамі й родным домам. Ніхто з нас не спадзяваўся пабачыцца з роднымі. Хаця між намі й хадзілі розныя „парашы" (погаласкі) аб амністыі, аб нейкіх зьменах у Савецкім Саюзе. Толькі такая зьмена магла нам прынесьці волю. Інакш нічога добрага нельга было спадзявацца. Крымінальніцы таксама мелі амністыю. Для іх былі іншыя законы, чым для палітычных. Парашы крыху й падтрымлівалі нас на духу.

Спаткаць можна было ў лагеры вельмі цікавых і вартасных людзей, але што з гэтага, як нас бесперарыўна перакідалі зь месца на месца, як не з аднаго лагера ў другі, то хоць муселі перамяніць баракі! І так, бывала, вернемся з работы, а тут нам кажуць браць свае рэчы й пераходзіць у іншы барак.

У кожным бараку былі месцы лепшыя й горшыя. Напрыклад, блізка парашы ніхто спаць не хацеў. Вось пачуўшы, што перасяляюць у іншы барак, хапалі свае рэчы й беглі, як найхутчэй, каб заняць лепшае месца. Зразумела, мацнейшыя былі першымі. Калі і ўдалося часам дабегчы раней, чым іншыя, й заняць сабе лепшае месца, то ўсё роўна на ім я доўга не затрымалася. Прыбегла блатная й выгнала. А так важна было, побач каго чалавек спаў. Калі й трапіў нехта па сэрцы, то доўга зь ім не пабыў, бо зноў пры замене баракаў разлучыўся. І таксама часта перакідалі з аднаго лагера ў іншы. Тады з прыяцелямі наогул расставаліся.

Не ўсе ў лагеры працавалі цяжка. Лёгкай была праца ў бібліятэцы, у канцэрцы, санчасьці, гігіенічнай комнаце, брыгадзіра і г.д. Тых, якія працавалі на работах лёгкіх, называлі ў лагеры прыдуркамі. Яны адчувалі сябе лепшымі ад іншых. Хадзілі лепш апранутымі, лепш, чым мы, елі й лепш выглядалі. Былі імі пераважна тыя, якія займаліся даносамі, або мелі добрыя пасылкі й маглі, як кажуць, падмазаць, дзе трэба.

Спатыкаліся ў лагеры й закаханыя адна ў адной жанчыны. Адна зь іх была падобная да мужчыны, мела й валасы падстрыжаныя так як мужчына й так як мужчына хадзіла толькі ў штанах, курыла, а другая была далікатная, жаноцкая. Жанчын-мужчын было менш у лагеры й мелі яны вялікае паводжаньне. Часта зьмянялі сваіх партнёрак. Пакінутыя вельмі перажывалі, прабавалі пакончыць самагубствам, а адна, вельмі прыгожая і, здавалася, інтэлігентная латышка, пакінутая так „кабёлам", звар'явала.

Калі я працавала на сьлюдзе, мая гіпэртанія развівалася й галаўны боль усільваўся. А мяне ўсё парашкамі кармілі і з працы не звальнялі. Прымала я парашкі ад болю галавы па некалькі раз у дзень, а яны не памагалі. Часам кроку не магла ступіць, так у галаву калола. Галавой павярнуць не магла, а калі хто да мяне гаварыў, я паварочвалася да яго цэлым тулавам. Пасылак я не атрымлівала, пісала да цёткі Гэльлі, каб нічога не прысылала, бо мне ўсяго хапае. А тымчасам была такая галодная, што калі павялі ў гарнізон мыць падлогі і ўбачыла ў брудным вядры плаваючыя лісткі капусты, то падышла да гэтага вядра, выбірала лісты й ела. Мне ўсё роўна было, што ў гэтым вядры знаходзілася, пляваў у яго хто ці іншае рабіў.

Аднаго разу прыехалі да нас вязьні з Казахстана, з лагера, дзе знаходзілася Вэра. Між імі былі Вэрыны сяброўкі.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ 60 ГОД ВЫЗВАЛЕННЮ

## Інфармацыя ад Германіі

**Германія перадае інфармацыю аб лёсах савецкіх афіцэраў, якія памерлі ў палоне.**

21 чэрвеня пасол Германіі ў Беларусі **Гельмут Фрык**, паведамляе ў сваім прэс–рэлізе пасольства ФРГ, і кіраўнік праекту аб'яднання "Саксонскія мемарыялы" **Клаус Дытэр Мюлер** перадалі ў Камітэт па архівах пры саўміне Беларусі банк дадзеных. Ён утрымлівае інфармацыю аб прыкладна 58 тысячах савецкіх афіцэраў, сярод іх – беларусаў.

Перададзеныя сканаваныя здымкі рэгістрацыйных картак вермахту, заведзеныя на гэтых палонных. Банк дадзеных і рэгістрацыйныя карткі утрымліваюць біяграфічную інфармацыю аб палонных (фатаграфія, імя і прозвішча, месца жыхарства, найбліжэйшая радня, ваенная часць, месца і час трапляння ў палон, стан здароўя, знаходжанне ў лагерах, месца і час смерці, прычына смерці).

Перадача адбылася падчас адкрыцця ў нацыянальнай бібліятэцы Беларусі выстаўкі архіўных дакументаў, якая прысвечаная 60–годдзю вызвалення Беларусі. У межах гэтай выстаўкі Інстытут імя Гётэ прадстаўляе падборку сучаснай гістарычнай літаратуры і відзамагэрыялаў на нямецкай мове.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ ЗАКОН

## За беларускую мову

**МІНСК. Кіраўніцтва рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) мае намер дамагацца прыняцця новай рэдакцыі Закона аб мове. Аб гэтым БелаПАН паведаміў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Ён адзначыў, што ў апошнія гады дзейнасць па абароне лінгвістычных правоў грамадзян была асноўным прыярытэтам у працы аб'яднання, паколькі аб'яўленае ў краіне фармальнае двухмоўе поўнасцю не выконваецца.**

«Менавіта, дзякуючы намаганням ТБМ, у снежні мінулага года Канстытуцыйны суд краіны прызнаў, што палажэнне Асноўнага закона аб двухмоўі не дзейнічае і неабходна ўнесць змяненні ў Закон аб мовах», — сказаў А. Трусаў.

Ён паведаміў, што ўлады абяцалі ў 2005 годзе ўнесці змяненні і дапаўненні ў гэты закон. «Вось чаму ТБМ будзе рабіць усё для таго, каб гэтае абяцанне было выканана і беларуская мова заняла сваё дастойнае месца ва ўсіх галінах жыцця», — сказаў А.Трусаў.

Кіраўнік ТБМ таксама паведаміў, што 27 чэрвеня аб'яднанне адзначыць сваё 15-годдзе. «Менавіта ў гэты дзень, 27 чэрвеня 1989 года, у Мінску адбыўся I з'езд ТБМ, дзейнасць якога можна ўмоўна падзяліць на тры этапы: савецкі перыяд (1989—1991 гг.), этап станаўлення незалежнай Беларусі (1991—1995 гг.), калі пачалося імклівае развіццё нацыянальнай самасвядомасці, а таксама перыяд з 1995 года па цяперашні час, пры якім беларуская мова і нацыянальная культура зноў былі пастаўлены ў цяжкія ўмовы выжывання. «Кожны з этапаў дзейнасці аб'яднання мае свае перамогі і набыткі», — лічыць А.Трусаў. Паводле яго слоў, за 15 гадоў ТБМ выпусціла каля 100 найменняў друкаванай прадукцыі, у тым ліку кнігі, брашуры, паштоўкі і канверты, а таксама памятныя календары.

Зараз, паводле слоў А.Трусава, ТБМ аб'ядноўвае больш як 10 тысяч чалавек, у тым ліку дзве тысячы актывістаў. Значную частку членаў аб'яднання складае моладзь.

Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.

**25 чэрвеня** - сёння яшчэ не позна **падпісацца на «Рэгіянальную газету» Спяшайцеся на пошту!**

## Знаёмцеся, Дубіна!

**Вёска Дубіна — адзін з населеных пунктаў Валожынскага раёна. Знаходзіцца паміж двума гарадамі: Валожынам і Маладзечнам. З поўначы мяжуе з торфабрыкетным заводам "Беразінскае", які з'явіўся амаль 50 гадоў таму назад, як вынік асушэння непраходнага балота. З паўночнага ўсходу на паўднёвы захад павольна нясе свае воды Нёману Беразіна, дорачы людзям прахалоду, а рыбакам – улоў. За ракой – чыгунка. На поўдзень ад вёскі лес.**

### Што ў назве тваёй?

Шмат соцень гадоў таму назад на месцы сучаснага торфапрадпрыемства "Беразінскае" было непраходнае балота, вакол якога раслі магутныя дубы, бярозы, вольхі. Зараснік часта саступаў месца паляне, а на месцы цяперашніх могілак рос асобна вялізны дуб. Рэдкі прахожы не звяртаў на яго ўвагу. Яно і не дзіва. Дрэва было такой велічыні, што некалькі чалавек, узяўшыся за рукі, не маглі абхапіць яго ствол.

Аднойчы над паселішчам разыгралася страшная навальніца. Гром быў такой моцы, што задрыжала ўсё наваколле. Паласавалі неба маланкі, дождж ліў, як з вядра. Прыціснуліся ад страху людзі да зямлі і тут жа пачулі страшны ўдар. Маланка трапіла ў дуб, і ён упаў, прыняўшы на сябе яе сілу.

Праз нейкі час людзі ўзвялі на месцы дуба збудаванне, якое назвалі царквой. Вакол яе жыхары навакольных вёсак знаходзілі свой прытулак. Жывыя сілы прыроды разбурылі з цягам часу гэта збудаванне. Засталася толькі пахіленая каплічка. Час ішоў, час зруйнаваў нават камяніцы, а яна ўсё стаяла, як бы напамінаючы людзям: "А я жыву і жыць буду, бо карані мае ў глыбіні мінуўшчыны".

У знак памяці дуба-выратавальніка паселішча, што тут размясцілася, і назвалі Дубіна.

### За завесай мінулага

Да 1496 года Дубіна была маёнткам, уласнасцю мсціслаўскага князя Івана Лінгвяневіча. Пасля смерці з-за адсутнасці нашчадкаў маёнтак перайшоў ва ўласнасць вялікага князя Аляксандра. У 1496 годзе ён падараваў маёнтак пану Троцкаму, а ў 1506 годзе ён ужо быў уласнасцю гродзенскага старосты Забярэзінскага.

Больш паўстагоддзя пра Дубіну няма ніякіх дакументальных звестак. Спроба знайсці архіўныя дадзеныя, як расказалі ў мясцовай школе, таксама не прынесла поспеху. Ні цэнтральны архіў у Вільні, ні Гродзенскі гістарычны архіў не змаглі даць патрэбных гістарычных звестак. Толькі Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў горада Мінска, спасылаючыся на "Волости и селения Европейской России 1886 года", паведаміў, што ў вёсцы Дубіна "Юрздыцка" Гародзькаўскай воласці Ашмянскага ўезда было 60 двароў, 630 жыхароў, багадзельня, карчма і дзве царквы.

# І сэрца адзавецца на чысты гук баяна

**Дубінскі клуб — малады. Афіцыйнае яго адкрыццё прыходзіцца на 1999 год. Менавіта ў гэты час пустуючы будынак камбіната бытавога абслугоўвання быў перададзены пад установу культуры. У ім яшчэ ішлі рамонтныя работы, а калектыў мастацкай самадзейнасці Дубінскога сельскага клуба ўжо ездзіў з канцэртамі па навакольных вёсках.**



Калектыў мастацкай самадзейнасці Дубінскога сельскага клуба ў складзе Івана Пашкоўскага, Юліі Ковель, Святланы Арцюкевіч, Тамары Саломкі, Ганны Кабушкі, Ліліі Рамановіч, Марыны Чабай збіраецца на чарговы канцэрт.

"Рэпецíравалі, — расказвае загадчыца Марына Чабай, — у мясцовай школе. Адразу збіраліся два разы на тыдні. А калі акрэсліўся рэпертуар, сталі абмяжоўвацца адным. У самым складаным становішчы аказаўся ў нас акампаніятар. Ён жыве за 10 кіламетраў ад Дубіны, у Бурмаках. На рэпетыцыі, і ў дождж, і ў спёку, ездзіў на веласіпедзе, з баянам за плячыма. Дарэчы, на свой першы канцэрт, а далі мы яго ў Брыльках, ездзілі таксама з шыкам, на кані. Раніцай выехалі, у абед выступілі, а вечарам ужо былі дома. Падарожжа тое і сёння без смеху ўспамінаць не можам".

У вакальнай групе людзі самых розных прафесій і ўзростаў. **Тамара Саломка** і **Лілія Рамановіч** — настаўніцы, **Ганна Кабушка**, **Вікенцій Таўгень**, ён іграе на скрыпцы, — пенсіянеры, **Людміла Каспяровіч** — сакратар сельсавета, **Алена Рамановіч** — сацыяльны работнік. Спявае і дырэктар клуба Марына Чабай, з сольнымі нумарамі выступае акампаніятар **Іван Пашкоўскі**, вучаніца 7 класа **Віка Сівая**. З ахвотай прыходзяць на рэпетыцыі і ездзяць разам з дарослымі на канцэрты і школьніцы **Юля Ковель, Света Арцюкевіч, Вераніка Загорская, Марына Мучынская, Наташа Рынкевіч**. У рэпертуары дубінскіх артыстаў каля сотні розных песень. Адных толькі вакальных налічылі больш за сорак. Таму падчас канцэртаў ніколі не паўтараюцца. І на кожнае свята распрацоўваюць новую праграму.

Апладысментамі сустракаюць слухачы Лілію Рамановіч, падабаюцца ім песні ў выкананні Тамары Саломкі, Івана Пашкоўскага. А чаго вартыя **Тамара Каляда** і **Ганна Жагунь**, якія выступаць на канцэртах з рознымі мініяцюрамі і сцэнкамі! "Мініяцюру "Суседкі", — расказвае загадчыца клуба Марына Чабай, — я бачыла ў выкананні нашых самадзейных артыстаў разоў мо, дваццаць. І кожны раз ад душы смяялася. Ганна і Тамара ніколі не паўтараюцца. Кожнае іх выступленне – як бы асобная гісторыя з жыцця сварлівых суседак, якая абрастае ўсё новымі і новымі падрабязнасцямі".

Усе іх выступленні будуюцца на вясковым матэрыяле. Але ніхто і ні разу, як расказала Лілія Рамановіч, не пакрыўдзіўся на артыстак. Можа, таму, што ўмеюць яны расказаць як пра іншых, так і пра сябе. Не са шпількай, а са смехам.

Пры поўным аншлагу праходзяць канцэрты мясцовых артыстаў у сваім клубе, з ахвотай ідуць на іх выступленні і жыхары Вішнева, Дор, Бабровічаў, Улазавічаў, Кібуцяў і многіх іншых населеных пунктаў, куды дабіраюцца як транспартам гаспадаркі, так і раённага аддзела культуры. "Часта, — гаворыць Марына Чабай, — выручае наш акампаніятар, у якога ёсць уласная машына".

Адным з першых выступаў Дубінскі сельскі клуб і на раённым фестывалі-конкурсе "Красуй, Радзіма, цвіці, жыццё". Чатыры нумары з іх канцэрта прайшлі на раённы гала-канцэрт, які адбудзецца 3 ліпеня ў райцэнтры. Рэпеціруюць, рыхтуюцца. Адначасова развучваюць новыя песні, якімі збіраюцца парадаваць механізатараў падчас жніва.

**Марына СЛІЖ.**

# З гумарам усё ў парадку

**"Дзесяць вёрст ад Валожына ёсць вялікае сяло Дубіна, і чутка аб ім далёка-далёка. Мае яно, мусіць, са 300 хат, ёсць там і манаполька, і карчма. Народ вельмі паганы, самыя п'яніцы і зладзеі: не толькі што на дварэ нічога не пакінь, але і з будынку павыцягваюць. У прошлым годзе дык выцягнулі ў Янука Палоўскага з пуні сячкарню, дык яна і прапала. У кудраўскага лесніка Максіма пазнімалі калёсы з восяў. А пабіць каго, дык гэта ў іх нават мода: няхай толькі будзе хто на каго злы або другі папросіць, дык нападуць ці на полі, ці на дарозе і забіваюць да паўсмерці. Трэба каго абараць, пабіць або і падсмаліць – ідзі ў Дубіну, там усё гэта знойдзеш. Але няма чаго дзівіцца: яны маюць вучыцеля, каторы не дае ім добрага прыкладу.**

Нядаўна тутэйшыя злодзеі на 8 хурманках уночы ўкралі з Кавалёўшчыны 60 коп гонтаў і развезлі па полі па ямах, ды цяпер смяюцца і хваляцца, што надта мудра ўправіліся.

Бедныя, цёмныя людзі! Калі ж да іх загляне сонца ў ваконца."

Такую характарыстыку Дубіне і яе жыхарам даў у свой час вядомы беларускі збіральнік фальклору, паэт і публіцыст Стары Улас. "Колькі ні распытвала старэйшых жыхароў, — гаворыць выхавацелька Дубінской агульнаадукацыйнай базавай школы-сада **Тамара Каляда**, — ніхто не памятае, каб ён наведваўся калі-небудзь у Дубіну. Хутчэй за ўсё пра нашу вёску чуў ад іншых людзей. З іх падачы і выдаў такую характарыстыку. Як да яе адносімся? З гумарам! Яго мястачкоўцам не пазычаць".

"Праўда, што ў вашай вёсцы людзі самыя благія?" – пытаюся, прадставіўшыся карэспандэнтам, у бабулькі ля вясковага магазіна. Уважліва паглядзеўшы мне ў вочы і ўлавіўшы ў іх хітрынку, яна адразу ж прапаноўвае: "Чаго стаіш далёка, хадзі бліжэй. Не паб'ю, дык хоць штурхну". "А вы ведаеце, што ў нашай вёсцы косы нават зімою кляпаюць. Мы на танцы з імі ходзім, — умяшаліся ў гаворку два юнакі. – Дубінцы народ такі: не спадабаецца што, ураз у ход пускаем. А бачылі, які надоечы дождж у Чабаях быў. З бурай, з градам. Гэта дубінцы ву-у-у-нь на той горачцы пасталі ды давай целагрэйкамі махаць. Усе хмары на суседнюю тэрыторыю сагналі".

Мясцовыя байкі хлопцы маглі б расказваць бясконца. Шмат іх накапілася за гады існавання вёскі. Адны пра Дубіну і яе жыхароў прыдумалі суседзі, іншыя склалі пра сябе самі. Расказваюць, рагочуць. Тым не менш ні адна з вясковых кабет, як прызналіся падчас размовы, прадаючы на рынку парасят, ні кажа, што яна з гэтай вёскі. Бо гадоў мо, ужо сорак, як бытуе сярод жыхароў раёна выраз: "Разумныя людзі ў Дубіне і свіней не купляюць". А словы "Ахтунг, ахтунг, Дубіна", быццам бы сказаныя немцамі, якія з неймавернай хуткасцю пранесліся праз вёску, баючыся помслівых яе жыхароў, і сёння перадаюцца з вуснаў у вусны.

Упэўнена, што большасць людзей успрымае ўсе гэтыя расказы як гумар. Той, хто хоць раз быў у вёсцы, пагодзіцца, што людзі тут жывуць ветлівыя, шчырыя, гасцінныя і добрыя. Ну, а таго, хто ведае пра яе толькі па расказах, дубінцы збіраюцца запрасіць на раённы фестываль гумару, які пройдзе ў гэтай вёсцы восенню.

**Марына СЛІЖ.**

■ **АНЕКДОТЫ З ДУБІНЫ**

### Хай трушчаць...

Ганна прыйшла да суседкі і просіць:

— Гэлька, пазыч мне гароху, калі ёсць, — свайго не хапіла.

— Дык ты ж сама летась клялася, што больш ніколі не будзеш яго сеяць, бо ўсё роўна чарвякі з'ядуць.

— То ж летась было... А сёлета палову агарода гарохам засею. Хай трушчаць, хай ім праз бакі павылазіць.

# Дубіна ўчарашняя і сённяшняя

Ураджэнец Узбалацкага сельсавета Д. Арцюкевіч-Раманоўскі ў сваіх успамінах пра Дубіну піша:

— Помню яшчэ курныя хаты, дзе былі печы без дымаходаў і зямельныя падлогі. Усе насілі саматканае адзенне і абувалі лапці. Скураны абутак быў рэдкім выключэннем. Вечарамі для асвятлення карысталіся лучынай. Потым з'явіліся газніцы, але з-за дарагавізны імі мала хто карыстаўся. Агонь здабывалі з дапамогай крэсіва, таму што запалкі каштавалі дорага. Бедным было і харчаванне. У аржаны хлеб дадавалі мякіну і бульбу...

Сённяшнія жыхары вёскі прачытаюць гэтыя радкі як казку. У Дубіне ўжо даўно няма падслепаватых хатак. На змену ім прыйшлі дыхтоўныя дамы, а цэнтральную сядзібу калгаса ўпрыгожваюць шматпавярховікі і катэджы, пабудаваныя сельскагаспадарчым вытворчым кааператывам "Агра-Дубінское", які ўзначальвае Генадзь Каспяровіч. Жывуць у іх пераважна маладыя спецыялісты: механізатары, настаўнікі, культработнікі. Людзі, якія працуюць на перспектыву вёскі, хвараюць за яе будучыню, знешні выгляд.

Розныя часы перажылі яны са сваім старшынёй. Памятаюць гады, калі працавалі па тры-чатыры месяцы без заработнай платы, і бралі грошы на хлеб у бацькоў-пенсіянераў, як, працуючы на перспектыву, шукалі па ўсім раёне салярку для таго, каб убраць ураджай. Затое цяпер могуць пахваліцца стабільнасцю, аб якой сведчыць хаця б той факт, што людзі ў "Агра-Дубінскім" атрымліваюць зарплату своечасова і без затрымак.

## Па добрай дарозе з вёскі не выязджаюць

Дубіну мы наведалі ў дзень летняга сонцастаяння, 21 чэрвеня. Амытая спорным летнім дажджом вёска патанала ў зеляніне і кветках. Гарэлі півоні, радавалі вока дагледжаныя гаспадынямі гароды, у якіх паднялася цыбуля і зацвілі ў цяпліцах агуркі. Пахла скошанай травой, язмінам і смалой. Рабочыя Валожынскага ДРБУ-167 рамантавалі дарогу, клалі праз вёску новы асфальт. Усе памніліся прачытаныя калісьці словы: па новай дарозе з вёскі не выязджаюць.

Тук-тук, тук-тук, — раздалося дзесьці за клубам. Гэта ў дах апранаўся чарговы домік-катэдж. Побач, як бы пацвярджаючы тое, што вёска маладзее, высіліся яшчэ два. Пройдзе час, і ў іх засяляцца гаспадары. Закіпіць жыццё, народзяцца дзеткі. Будзе каму хадзіць у дзіцячы садок, будзе каму садзіцца за школьную парту.

## Адзін дзень з жыцця школы

У Дубінскую агульнаадукацыйную базавую школу-сад зазірнулі бліжэй да палудня. У прасторным калідоры пахла фарбай. "Распачалі рамонтныя работы, — растлумачыла дырэктар **Таццяна Чабай**. Хочацца, каб да новага навучальнага года школа абнавілася, папрыгажэла". Усё робяць сваімі сіламі. Задзейнічаны і настаўнікі, і тэхнічныя работнікі, і класныя кіраўнікі. Не адмаўляюць у дапамозе і асобныя бацькі. Для сваіх жа дзяцей стараюцца!

Грошы на рамонт школа зарабіла сама. Выручыла падсобная гаспадарка, тут выгадавалі і прадалі дваіх свіней, зарабілі і на бульбе, збожжы. Зробім касметычны рамонт у класах, перакладзём печкі, — дзеліцца планамі дырэктар, — частку грошай патрацім на добраўпарадкаванне". Гаспадарская рука кіраўніка тут адчуваецца ўсюды. Радуе пышнінёй дзіцячы садок, цешыць вока ўтульны школьны дворык, дзе побач з яркімі альтанкамі разбіты і акуратна абкладзены каменьчыкамі кветнікі.

У поўным парадку і гарод, які даглядаюць дзяўчынкі і хлопчыкі з працоўна-аздараўленчага лагера з дзённым наведваннем. У той дзень працавалі на прапалцы капусты, пад якую адведзена не адна сотка зямлі. А побач — буракі, цыбуля, фасоля, морква, агуркі. Школа ўмее забяспечыць сябе гароднінай, якая дапамагае карміць школьнікаў смачна і танна.

**Марына СЛІЖ.**



Самым надзейным відам транспарту і адначасова памочнікам ва ўсіх справах у вёсцы застаецца конь. З яго дапамогай сеюць, садзяць і разворваюць бульбу, ездзяць у магазін і, як гэта жанчына, у млын.



Рабочыя Валожынскага ДРБУ-167 рамантуюць дарогу, кладуць новы асфальт.



Дом апранаецца ў дах. Праз нейкі час засвецяцца і яго вокны. Яшчэ адна маладая сям'я ў Дубіне атрымае сваё жыллё.



Царква стаіць у цэнтры вёскі. Пабудаваная яна ў 1868 годзе з бутавага каменю. З'яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарускага стылю.



Гусей у сям'і Ковеляў вырошчваюць пяць гадоў. У птушанят, якія вывеліся сёлета, дзве мамы — гусыня і белая курачка, якая таксама сядзела на яйках.



За журналістамі, што наведаліся ў Дубіну, назіраў праз акно кот.



Дзяўчынкі і хлопчыкі з працоўна-аздараўленчага лагера Дубінскай агульнаадукацыйнай базавай школы-сада даглядаюць капусту.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

■ **АНЕКДОТЫ З ДУБІНЫ**

## Надакучылі госці...

Сустрэўся неяк дубінец з сябрам у горадзе.

— Ну, як табе жывецца? — цікавіцца ў таго.

— Добра жыву, — адказвае сябра. – Адно засмучае: суседзі панадзіліся ў госці хадзіць. Штодзень то адны, то другія наведваюцца. Да таго надакучылі: не ведаю, што і рабіць.

— А ты зрабі, як мы ў вёсцы, — раіць дубінец. – Як толькі госці на парог – пачынай жонку біць. Адразу хадзіць перастануць. Нездарма ж кажуць: "Бі сваіх, каб чужыя баяліся!"

## Мужава дыета

Адна жонка паскардзілася ўчастковаму на свайго мужа-п'яніцу. Той выклікаў яго да сябе і грозна пытае:

— Яхрэм, навошта ты зноў грошы прапіў? Цяпер жонцы з-за цябе галадаць давядзецца.

— Знайшлі каму верыць. Дык яна ж сама сказала, што трэба крыху пагаладаць, а то задужа распаднела.

## Не той пасажыр

Едуць у аўтобусе пасажыры. Адзін звяртаецца да другога:

— Скажыце, калі ласка, вы часам не з Дубіны будзеце?

— Ды не, — адказвае той.

— А жонка ваша не з Дубіны?

— Ды не, не з Дубіны?

— Прабачце, а бацькі вашы не ў Дубіне жывуць?

— Не, не ў Дубіне.

— А можа, у вас там родныя ці знаёмыя жывуць?

— Няма ў мяне там нікога. Чаго вы прычапіліся?

— Я табе прычапіўся! А ну, зараз жа знімі сваю нагу з маёй. Ні разу ў Дубіне, аказваецца, не быў, а па чужых нагах топчацца, як слон. Ну, і нахабныя людзі пайшлі.

## ВІНШАВАНКІ

**Мікалаю Уладзіміравічу Туру.**
Каханы, з днём нараджэння!



Заставайся заўсёды такім, які ты ёсць: любячым, добрым і жыццярадасным.

*З любоўю жонка і дзеці.*

**Сашачку Сыракваша з Вілейкі** з днём нараджэння! Здароўя, сямейнага дабрабыту. *Жонка Люда і дзеці Жэня, Рома.*

**Юрый Арсеневіч Крывашэй!** Віншуем з наступаючым днём нараджэння! Жадаем ад Бога здароўя, ад сонца – цяпла, ад людзей – дабра. *Бацькі з в. Кобузі.*

**Наталлю Арсенеўну Дзенісюк** віншуем з днём нараджэння! Будзь здаровай, прыгожай і шчаслівай. Каханне табе і поспехаў ва ўсім. *Бацькі з в. Кобудзі.*

**Ірыну Скапец** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя і поспехаў у вучобе. *Бабуля Вера, дзядуля Лёня і прабабуля Ніна Капуцкія.*

**Ірыну Скапец** віншуем з заканчэннем 9 класа! Няхай жаданае абавязкова споўніцца. *Бабуля Вера, дзядуля Лёня і прабабуля Ніна Капуцкія.*

**Таццяну Пішчаку** віншую з днём нараджэння! Жадаю здзяйснення запаветных мараў, моцнага здароўя і шчасця. *Сяргей.*

Віншую **настаўнікаў і выпускнікоў МБГ.** Шчыра дзякую ўсім за гады, праведзеныя разам. *Сяргей Габруковіч.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 49/172/82, былы ваенны, матэрыяльна забяспечаны, без шк./зв., з інтэлектам і пачуццём гумару, умелыя рукі, аўтамабіль, пазнаёміцца з адукаванай, абаяльнай жанчынай да 43 гадоў, якая нарадзілася пад знакам Шалі, Блізняты, Вадалей, без шк./зв., з пачуццём гумару і рамантычнай натурай, для сур'ёзных адносінаў. Пажадана фота (вярну). 231042, Смаргонь-2, а/с 36.

Прыемная жанчына, 46/170, удава, пазнаёміцца з добрым мужчынам, матэрыяльна забяспечаным, для сумеснага пражывання. 222310, Маладзечна-1, п/п МС 0997520.

Мужчына, 42/176/70, пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў. 231000, Смаргонь, галоўпаштамт, п/п КН 0032540.

■ ПАРАДЫ САДАВОДА І АГАРОДНІКА

# Што і як рабіць у ліпені

**У ліпені прыкметна набіраюць вагу яблыкі, слівы і грушы. Пад іх цяжарам пачынаюць згінацца галіны. Каб яны не зламаліся, пад іх стаўце падпоры. Не шкадуйце недаразвітых, шчарбатых пачарнелых пладоў. Сарвіце або зрэжце іх. Гэтым вы аблегчыце работу каранёў і лісця па дастаўцы вады і пажыўных рэчываў у пакінутыя плады, палепшыце іх якасць.**

У гэтым месяцы завяршаюць уборку суніц, затым чарэшань, вішань, парэчак, агрэсту. Даводзяць іх да ладу.

Пасля збору суніц выразаюць вусы, калі не патрэбна расада, падкормліваюць расліны вадкім арганічным угнаеннем або поўным мінеральным. Пры моцным разрастанні лістоў і пашкоджанні іх кляшчом або хваробамі расліны падкошваюць на вышыні 5-7 см ад зямлі.

Для аховы пладовых дрэў ад павутных шкоднікаў дрэвы абкручваюць лоўчымі паясамі з паперы, мешкавіны, плёнкі. Супраць тлі і лістагрызучых шкоднікаў дрэвы і кусты апырскваюць адварам бульбоўніку. Бяруць 5 кг здробненага зялёнага або 2 кг сухога, заліваюць 10 л вады і кіпяцяць 30 хвілін. Настойваюць, працэджваюць і перад ужываннем разводзяць вадой у 3 разы, дадаюць 40 г мыла. Тлю знішчаюць і адварам попелу. 300 г прасеянага попелу заліваюць кіпенем, кіпяцяць 20 хвілін. Даюць адвару адстаяцца, потым працэджваюць, даліваюць да 10 л і выкарыстоўваюць.

Канец ліпеня – пачатак жніўня найбольш падыходзіць для акуліроўкі дрэў (прышчэплівання пупышкай). Спрыяльныя дні – 23-27 ліпеня. Для ўборкі пладоў і ягад спрыяльнымі будуць 1-3, 5, 6 і 8-10, падкормак і паліву – 1-3, 6, 7 і 16-18 ліпеня.

Агароднікі ў ліпені займаюцца галоўным чынам доглядам за раслінамі і зборам ранняй і хуткаспелай гародніны. Разам з тым у закрытым грунце прадаўжаюць сяўбу і пасадку. Вось чаму кожнага цікавіць, калі гэта лепш рабіць.

Агуркі і памідоры, баклажаны, кабачкі і гарбузы лепш сеяць 1, 23-27 ліпеня, зялёныя культуры – 1, 23-27 і 30, цыбулю і часнок – 1, 10, 16, перац – 1, 28, 29, капусту – 1 ліпеня.

У ліпені Месяц расце з 17 па 30, а ўбывае з 2 да 17. Неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры дні – 2-5 і 17-20 ліпеня. Выкарыстайце гэтыя дні для апырсквання і апыльвання раслін супраць хвароб і шкоднікаў.

Спрыяльныя дні для ўборкі: ранняй капусты — 1-3 і 23-27; агуркоў і зеляніны – 1, 23-27; ранняй бульбы і караняплодаў – 3-5, 9, 10 і 16 ліпеня.

Паліў і падкормка найбольшую карысць дадуць, калі зробіце гэта 4, 5, 16, 17 і 23-25 ліпеня.

Апрацоўваюць расліны супраць хвароб і шкоднікаў настоямі і адварамі тых раслін, што і ў чэрвені.

Супраць каларадскага жука апырскваюць бульбу адварам палыну, растворам попелу. Пры магчымасці пакідаюць сярод бульбы адзіночныя расліны кропу, морквы. Яны сваім пахам прывабліваюць насякомых і птушак, якія знішчаюць шкоднікаў.



Аграном
**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**25-27 чэрвеня.**
**"Ван Хельсінг"**, ЗША, трылер, 2 серыі — у 16.00, 18.30, 21.00.
**28 чэрвеня - 4 ліпеня.**
**"Барвовыя рэкі-2: Анёлы апакаліпсіса"**, Францыя, дэтэктыў – у 19.00 і 21.00.
**"Шоу пачынаецца"**, ЗША, камедыйны баявік – у 17.00.

### Для дзяцей

**25-27 чэрвеня.**
**"Біонікл: маска святла"**, ЗША, прыгоды – у 13.00.
**28 чэрвеня.**
**"Полі"**, ЗША, прыгоды, анімацыя – у 10.00, 12.00 і 14.00.
**29 чэрвеня.**
**"Дыназаўр"**, ЗША, прыгоды, анімацыя – у 10.00, 12.00 і 14.00.
**30 чэрвеня.**
**"Аленяня Рудольф"**, ЗША, прыгоды – у 10.00, 12.00 і 14.00.

Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні – штодзённа, акрамя панядзелка. Пракат ліцэнзійных відэакасет ад фірмы "ВідэаАльянс".
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ КОНКУРСЫ

# Прыз – відэакасета

Добры дзень усім удзельнікам конкурсу. Павінен прызнацца, што пісем ад вас на гэты раз паболела. Што датычыць актыўнасці, то ёй вызначыліся як маладзечанцы, так і вiляйчане. Няправільны адказ быў толькі адзін. Імя і прозвішча савецкай кіназоркі і спявачкі Людміла Гурчанка, а не Людміла Абранчук, як напісаў адзін з удзельнікаў конкурсу.

На гэты раз вам прыйдзецца адгадаць імя (пытанні 1-4) і прозвішча (пытанні 5-9) вядомага кінаакцёра і спевака.

1. Што з пералічанага абавязаны насіць член піянерскай арганізацыі? (Акуляры. Гальштук. Ласты.)

2. Як называецца ідэя, якой не суджана збыцца? (Ілюзія. Аказія. Калізія).

3. Хто з гэтых амерыканскіх прэзідэнтаў перасоўваўся з дапамогай інвалiднай каляскі? (Рузвельт. Трумэн. Джонсан.)

4. У якім з гэтых расійскіх рэгіёнаў артыст Міхаіл Еўдакімаў абраны на пост губернатара? (Алтай. Комі. Саха.)

5. У якім з гэтых нямецкіх гарадоў у 1415 годзе быў спалены Ян Гус? (Веймар. Канстанц. Рэгенсбург.)

6. Якое з пералічаных дрэў называюць "мамантавым"? (Эўкаліпт. Секвоя. Баабаб.)

7. Як звалі настаўніка, у якога закахалася галоўная гераіня камедыі Янкі Купалы "Паўлінка"? (Адольф. Пранціcь. Якім.)

8. Які з гэтых бальных танцаў "нарадзіўся" ў Мексіцы? (Румба. Самба. Вальс.)

9. Якія з гэтых птушак бываюць вясковыя і гарадскія? (Сініцы. Шпакі. Ластаўкі.)

Каб разгадаць заданне, вам неабходна: па-першае, адказаць на пытанні, да кожнага з якіх даюцца тры варыянты адказаў, адзін з іх – правільны; па-другое, з кожнага слова-адказу ўзяць першыя літары і скласці з іх словы.

Чакаем вашых адказаў 10 дзён, а ў рэдакцыю за купонам на відэакасету запрашаем бібліятэкара сярэдняй школы №3 горада Вілейкі **Валянціну Літвіновіч.** Атрымаць прыз можна ў пунктах продажу аўдыё- і відэатавараў у "Дзіцячым свеце", "Пасажы", на калгасным рынку і міні-рынку "1000 дробязяў".



Конкурс вядзе
**Мікола ЛІПСКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**25 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Ганны, Аўксенція, Андрэя, Ануфрыя, Арсенія, Івана, Іоны, Пятра, Сцяпана, Феафіла.
**Каталіцкія:** Дароты, Люцыі, Вільгельма.

**26 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Акуліны, Антаніны, Ганны, Зоі, Івана, Савы.
**Каталіцкія:** Дануты, Паўла, Яна.

**27 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Георгія, Елісея, Мяфодзія, Мсціслава.
**Каталіцкія:** Марыі, Кірыла, Уладзіслава.

**28 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Амоса, Віта, Еранiма, Іоны, Касьяна, Лазара, Мадэста, Рыгора, Фёдара, Яфрэма.
**Каталіцкія:** Ірынея, Лявона.

**29 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Аўгусціна, Цiхана.
**Каталіцкія:** Апосталаў Святых Пятра і Паўла.

**30 чэрвеня**
**Праваслаўныя:** Мануіла, Савацiя, Савелія.
**Каталіцкія:** Люцыяны, Эміліі.



## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАМ**

- А/м з Германіі. Т. у Маладзечне 50183, (8-029) 6560483.
- Аўдзі В-4, 1994 г.в., 2,0, ABS, airbag, эл/люк, музыка, г/у, ц/з, сігналізацыя. Т. (8-029) 7606040.
- Аўдзі-80, 1989-90 г.в., 1,6 мона, цёмна-сіняя, кар. фар, фаркоп, люк, літыя дыскі, 2 мес. у РБ. Т. у Вілейцы 32080.
- Аўдзі-80 ТД, 12.1986 г.в. Т. у Вілейцы 53666 (пасля 18.00).
- Аўдзі-80, 1983 г.в., авар., 400 у.а. Т. у Вілейцы 58177, (8-029) 7031403.
- Аўдзі-80, 1980 г.в., 1,6Б. Т. у Вілейцы 57771.
- Аўдзі-100, 1983 г.в., 2,0і, вішнёвы, 1200 у.а. Т. у Вілейцы 58567, (8-029) 6354515.
- БМВ-316Б, 1990 г.в., аб'ём 1,6, 2000 у.а. Т. (8-029) 6870898.
- БМВ-524 ТД, г/у, ц/з, эл/люк, эл/люстэркі, сігналізацыя, серваруль, карэктар фар, 4300 у.а., торг. Т. у Вілейцы 55610, (8-029) 7091519.
- ВАЗ-2101, добры стан. Т. у Маладзечне 90414.
- ВАЗ-2101, капрамонт кузава, 480 у.а., торг. Т. у Вілейцы 51950, 35188.
- ВАЗ-2103, 1979 г.в., ВАЗ-2107, 1994 г.в. Т. у Вілейцы 32918.
- ВАЗ-2103, 1975 г.в., вішнёвы, нядорага. Т. у Маладзечне 41953.
- ВАЗ-2103, 1978 г.в., добры стан. Т. у Вілейцы 53032.
- ВАЗ-2104, 1990 г.в., у добрым стане, цана дагаворная. Т. у Вілейцы 32972.
- ВАЗ-2105, 1982 г.в., добры стан, страхоўка, новая гума. Т. (8-029) 7653828.
- ВАЗ-2105, 1991 г.в., 1100 у.а., добры стан. Т. (8-029) 5587292.
- ВАЗ-21053, 1983 г.в., 1,5Б, 780 у.а. Т. у Маладзечне 39770, (8-029) 6664631.
- ВАЗ-21063, 1987 г.в., 1000 у.а., торг. Т. у Вілейцы 58308.
- ВАЗ-21063, 1985 г.в. Т. у Вілейцы 53410.
- ВАЗ-2107, 1985 г.в., добры стан. Т. (8-029) 5514842.
- ВАЗ-2107, 1991 г.в., 1500 см³, 5КПП, выдатны стан, 1300 у.а., торг. Т. (8-029) 7757393.
- ВАЗ-2107, ТА 2005 г., бэжавы, 950 у.а., торг. Т. у Маладзечне 75321, (8-029) 7742940.
- ВАЗ-2108, 1993 г.в., 1,3, ідэальны стан. Т. у Вілейцы 33878.
- Вольву-740, 1985 г.в., газ-бензін. Т. у Вілейцы 42336, (8-029) 6340421.
- Вольву-760, 1983 г.в., 1800 у.а. Т. у Вілейцы 51865.
- Мазду-323F, 1991 г.в., г/у, ц/з, 2400 у.а., торг. Т. у Маладзечне 43104 (пасля 18.00).
- Мазду-626 універсал, 1994 г.в., у аварыйным стане. Т. у Маладзечне 71788, (8-029) 6320803.
- Мазду-626, 2,0, тур. дызель, бочка, седан. Т. у Смаргоні 96812 (з 17.00 да 18.00; з 7.00 да 7.30).
- Масквіч-2140 на запчасткі; участак 15 сотак. Т. у Вілейцы 32086.
- Масквіч-412, 1990 г.в.; лабавое шкло да Масквіча. Т. у Маладзечне 53788.
- Мерседэс-123, 1980 г.в., бензін. Т. у Вілейцы 55358.
- Мерседэс-123, 1982 г.в., 240Д, 1800 у.а. Т. у Валожыне 57192.
- Мерседэс-190Д, 1987-88 г.в., 2,5 см³, г/у, ц/з, кар.фар, эл/люк, ABS, чырвоны, 5КПП, 3250 у.а. Т. (8-029) 7744381.
- Мерседэс-200Д, 1979 г.в. Т. у Вілейцы 33521, (8-029) 6959844.
- Мерседэс-307Д, 1984 г.в., нядорага. Т. у Маладзечне 69062, (8-029) 7684020.
- Міцубісі Галант, 1993-94 г.в., бардовы металік, 2,0 ТД, выдатны стан. Т. (8-029) 5531613.
- Нісан Блюберд, 1989 г.в., 2,0Д, г/у, эл/люстэркі, седан, добры стан. Т. у Астраўцы 21805.
- Опель Амегу Караван, 1992 г.в., 2,3Д, у добрым стане. Т. у Вілейцы 46268.
- Опель Астру, 1993-94 г.в., 1,6Б, мона, без прабегу па РБ. Т. у Маладзечне 34601.
- Опель Астру, 2350 у.а. Т. (8-029) 7740927.
- Опель Вектру, 1992 г.в., 1,7 дызель, белы, кошт 2700 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57530, (8-029) 6241061.
- Опель Кадэт, 1982 г.в., 1,6 дызель. Т. у Маладзечне 34364.
- Опель Калібру, 10.1994 г.в., 2,0і, чырвоны. Т. у Маладзечне 44760, (8-029) 7654484.
- Опель Рэкорд, 1983 г.в., нядорага. Т. (8-029) 7690143.
- Пэжо-309, 1988 г.в., ацынкаваны, амаль выдатны стан. Тэрмінова. Т. (8-029) 5003529.

## Купон 26

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

